


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 18 (207) СНЕЖАНЬ 2015 ГОДА

**БЕЛАРУСКАЯ ПРЫМАЎКА**

**Прастата тая ж дурата**

***Віншуем чытачоў з Новым годам і Калядамі! Жадаем аптымізму, бадзёрасці і плёну ў справах!***

**Рэдакцыя газеты "Гасцінец"**

З НОВЫМ ГОДАМ!

# ШЭСЦЕ ДЗЕДАЎ МАРОЗАЎ З ВІНШАВАННЯМІ

**23 снежня ў райцэнтры па вуліцы Савецкай адбылося шэсце Дзедаў Марозаў са Снягуркамі, якія потым павіталі жыхароў з Новым годам, а напрыканцы запалілі галоўную елку Гарадоччыны.**

Учора ў Гарадку адбылося шэсце Дзедаў Марозаў і Снягурак са сваімі камандамі, якія прадстаўлялі шматлікія арганізацыі горада і раёна. З-за адсутнасці снега і мароза галоўны Дзед Мароз ехаў не ў санях, а на мотаблоку.

Шэсці віталі шматлікі яжыхары, якія прыйшлі пабачыць гэтае карнавальнае шэсьце, а таксама паслухаць віншаванні галоўных навагодніх герояў.

Эстафету віншаванняў каля культурна-асветніцкага цэнтра "Гарадок" распачалі каманды Дзеда Мароза і Снягуркі з аграрна-тэхнічнага і прафесійна-тэхнічнага каледжаў нашага райцэнтра.

Амаль гадзіну ішлі гэтыя віншаванні, якія чаргаваліся карагодамі, а напрыканцы віншавання Дзед Мароз з рэдакцыі раённай газеты выканаў святочную песню пад якую танчылі ўсе Снягуркі.

На свяце навагодніх віншаванняў Вольга Каўрыга, намесніца начальніка аддзела Гарадоцкага райвыканкама, падвяла вынікі выставы "Цуда-елка", якая пачала дэманстравацца ў выставачнай зале КАЦ "Гарадок". Шматлікія дыпл шэсце Дзедаў Марозаў са Снягуркамі лі омы былі ўручаны прадстаўнікам сельскіх дамоў культуры, арганізацый і прадпрыемстваў Гарадка. Гран-пры атрымалі прадстаўнікі Гарадоцкай райбальніцы, якія прадставілі 12 ёлак на навагоднюю выставу, што будзе адкрыта да 8 студзеня.

Напрыканцы навагодняй імпрэзы, яе ўдзельнікі з дапамогай Дзедаў Марозаў запалілі галоўную елку Гарадка і пачалі ладзіць каля яе карагоды.

**Леанід Гаравы**

*Ад рэдакцыі: на сайце* ***haradok.info*** *размешчаны фота і відэа шэсця і запальвання елкі.*

**ЗНАЧНА БОЛЬШ НАВІНАЎ ПРА ГАРАДОК НА HARADOK.INFO**

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

# ДАЯРКІ ГАТОВЫЯ ПРАЦАВАЦЬ ЗА КАПЕЙКІ

**Яны баяцца наступстваў: банкруцтва ААТ «Гарадоцкае райаграпрам-забесьпячэньне» прывядзе да скарачэньня работнікаў, высяленьня іх са службовага жытла, а ў пэрспэктыве — адбіраньнем дзяцей зь сем'яў, дзе іх ня змогуць утрымліваць.**

Менавіта так малююць сваю будучыню даяркі з фэрмы ў вёсцы Верамееўка, якая ўваходзіць у структуру прадпрыемства «Гарадоцкае райаграпрамзабесьпячэньне». Пэрспэктывы няўсьцешныя, але рэчаіснасьць таксама невясёлая: заробак на фэрме мінімальны — два з паловай мільёна рублёў. І той затрымліваюць, так што людзі вымушана апынуліся ў пазыках. Нават за школьныя падручнікі заплаціць было праблемай — настаўнікі закладалі свае грошы, гаворыць маці чатырох дзяцей спадарыня Алена. Але самае страшнае для яе — застацца бяз працы, калі фэрму зачыняць:

*«Вось куды потым уладкавацца? Так проста, сядзець і „бамжаваць"? Хіба гэта добра? Мы ўжо пыталіся: на птушкафабрыку нас ня возьмуць. Там сваіх хапае, і свае скарачэньні ідуць. Мы проста ня ведаем, што будзем рабіць — працы нідзе няма. А ў мяне чацьвёра дзяцей: 5, 7, 8 і 11 гадоў. Вось куды падзецца? Я ў хляўчук, а дзеці на вуліцу? Зь дзецьмі што рабіць? Ды яны хіба думаюць пра дзяцей?»*

Пэрспэктыва пасяліцца ў хлеўчуку ці начаваць на вуліцы выглядае для тутэйшых работніц цалкам верагоднай. І самае страшнае, што ў такім выпадку зь бяздомных сем'яў могуць забраць дзяцей у сацыяльныпрытулак.Ботых,хто мае службовае жытло, пасьля прызнаньня прадпрыемства банкрутам і закрыцьця фэрмы чакае высяленьне.

Між тым, ААТ «Гарадоцкае райаграпрамзабесьпячэньне» нядаўна фігуравала ў скандале з буйнымі жыльлёвымі махінацыямі. 14 дамоў у Гарадку, збудаваных за кошт ільготных крэдытаў, размеркавалі і прадалі ў растэрміноўку незаконна, па заніжаных коштах. Гаспадары большасьці гэтых дамоў — прадстаўнікі адміністрацыі, былыя кіраўнікі і галоўныя спэцыялісты прадпрыемства. Віцебскае ўпраўленьне Сьледчага камітэту распачало крымінальныя справы на аднаго з былых дырэктараў і галоўнага бухгальтара — за злоўжываньне службовым становішчам.

Увогуле ж менавіта ранейшых дырэктараў на фэрме ў Верамееўцы лічаць вінаватымі ў праблемах прадпрыемства, гаворыць даярка, спадарыня Марына:

*«Тыя дырэктары і вінаватыя. Я 5 гадоў тут працую, і за гэты час зьмянілася 8 кіраўнікоў. Цяпер прызначылі гэтага, апошняга, і „навеселі" на яго ўсё крэдыты і ўсе пазыкі. А ён адзіны, мы бачым, хто сапраўды працуе. Сапраўды стараецца, каб мы хаця б малыя грошы, але атрымлівалі. Ён працуе, прыязджае, у каршэнь нам дае! Мы хоць бачым, што не дарма працуе. А дзе тыя? Іх толькі апошні год трое памянялася, гэты чацьвёрты. Паставіць бы іх усіх, ранейшых, перад судом, і каб распавялі, навошта бралі крэдыты і як улезлі ў пазыкі! Бо цяпер праз іх мы заробкі па тры месяцы не атрымлівалі, цяпер мы ўсе ў пазыках, іх у нас — во! Вышэй даху!»*

Суд, пасьля якога ААТ «Гарадоцкае райаграпрамзабесьпячэньне», выглядае, будзе абвешчана банкрутам, мае адбыцца 16 сьнежня. За падзеямі вакол прадпрыемства пільна сочыць увесь Гарадок, бо адразу 168 чалавек застануцца бяз працы, частка зь іх — без жытла.

А скандал з 14 дамамі для адміністрацыі яшчэ зусім сьвежы, гаворыць мясцовы актывіст, сябар руху «За свабоду» Леанід Гаравы:

*«Гарадоцкае райаграпрам-забесьпячэньне» — гэта былая «райсельгастэхніка», прадпрыемства ўвабралаўсябе каля дзясятка былых калгасаў і саўгасаў, займае тэрыторыю каля трацiны ўсяго раёну. Праблемы прадпрыемства мае праз тое, што ня можа вярнуць набраныя крэдыты, а гэта звыш 120 мільярдаў. У кастрычніку быў сход акцыянэраў наконт звароту ў эканамічны суд Віцебскай вобласьці, каб пачалі працэдуру банкруцтва. Галоўны акцыянэр — гэта Гарадоцкі райвыканкам. І гэтая кіроўная структура ня здолела наладзіць працу і весьці гаспадараньне так, каб былі выплачаны ўсе набраныя крэдыты«.*

Як насамрэч вядзецца гаспадараньне, можа ўбачыць кожны, хто пабывае на фэрме ў Верамееўцы. У памяшканьні, дзе стаяць каровы, цёмна, брудна, дзьверы расчыненыя насьцеж. Цяляты ўтрымліваюцца на вуліцы: проста на зямлі, а цяпер ужо на сьнезе і лёдзе пастаўлены плястыкавыя «хаткі» памерам з будку для вялікага сабакі. Каля кожнага ёсьць невялічкі загончык, але зараз яны пустыя, цяляты хаваюцца у сваіх «дамках».

Такія самыя «дамкі» для цялятаў ёсьць і на суседняй фэрме ў вёсцы Верамеева (Лажані) . Але тут яны хаця б пад дахам — у вялікім будане, сьцены якога зроблены з шыфэру. Цялятніцы Марыне 51 год, яна дужа шкадуе сваіх гадаванцаў, якi і ўсе тутэйшыя работнікі. А таму, кажа, зьвесткі пра страйк, які нібыта адбыўся на фэрме 2 сьнежня, дужа перабольшаныя:

*«Спачатку мы хацелі. Ну, у нас атрымалася не забастоўка, а паездка на сход. Зранку мы кароў падаілі, усё зрабілі і паехалі ў кантору. Там тры гадзіны адсядзелі, ніхто нам дапамагчы не захацеў. Так і сказалі: нічым дапамагчы вам ня можам! Ну, што ж, паехалі зноў на працу. Кароў і цялят пашкадавалі — яны ж есьці хочуць, даіцца трэба... А працы іншай у Гарадку няма. З гэтым дырэктарам трохі пачалі падымацца, але крэдытаў нам больш не даюць, мы ж банкруты. Нам абяцалі, што і працу знойдуць, і што з жытла высяляць ня будуць. Але мы ведаем, як бывае: ільнозавод зачынілі, а потым і высяляць пачалі. Калі каго працаўладкавалі — дык 2-3 чалавекі. Аніякай дапамогі нам няма!»*

Брыгадзір Вольга Падрэз таксама кажа, што страйк на фэрме не распачынаюць толькі са шкадобы да жывёлы. Але ўпэўнена, што змагацца за прадпрыемства трэба, і што людзі спадзяюцца на цяперашняга кіраўніка, гатовыя зь ім ехаць у суд па банкруцтве:

*«Каровы тут не пры чым, іх не пакарміць — гэта як быццам сваё дзіцё не пакарміла... Але я спадзяюся, што паміж дойкамі мы пасьпеем ва ўсе інстанцыі! У нас людзі, хоць і мала грошай, гатовыя сабраць па 30 тысяч, наняць аўтобус і ўсім паехаць на суд! Дырэктары мяняліся як пальчаткі, нам заробкі не давалі па 4 месяцы. А зараз год прайшоў, у нас заробкі каля трох мільёнаў у сярэднім. Паглядзіце — у даяркі заробак 2 мільёны 990 тысяч, вось цялятніца атрымала 3 мільёны 849 тысяч, ім за прыбаўкі вагі даплочваюць... Мы спрабуем узьняцца, а нас топяць! Але мы ўсё адно будзем імкнуцца...»*

Адзінае, чаго хочуць работнікі фэрмаў — дык гэта адтэрміноўкі банкруцтва ААТ «Гарадоцкае райаграпрамзабесьпячэньне» на год-паўтара. За гэты час, яны гавораць, у цяперашняга кіраўніка можа атрымацца аддаць ранейшыя пазыкі. Між тым, у падпарадкаваньні прадпрыемства засталося толькі 6 фэрмаў, хоць раней было 15. Астатнія 9 паадавалі іншым гаспадарам, і яны заняпалі.

**"Радыё Свабода"**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размешчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яе атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

ФОТАФАКТ

# ГІСТАРЫЧНАЯ СТАНЦЫЯ МЕНЯЕ АБЛІЧЧА

**Гістарычная паштовая станцыя ў Гарадку, якая была пабудавана ў 1839 годзе на "екацярынінскім шляху" з Санкт-Пецярбурга ў Адэсу пачынае меняць сваё абліčча і ператварацца ў храм.**

У гэтым годзе распачалася праца па ператварэнню гістарычнай паштовай станцыі г. Гарадка ў храм Святога апостала Андрэя першазванага. У свой час Гарадоцкія ўлады не парупіліся пра наданне гэтай станцыі статуса гісторыка-культурнай каштоўнасці і ў 2008 годзе гістарычны будынак быў за сімвалічны кошт прададзены праваслаўнай царкве.

Зараз у паштовай станцыі існуе прыход храма Святога апостала Андрэя першазванага.



Па восені на ім уладкавалі купал у выглядзе "цыбуліны", які з'яўляецца характэрнай рысай рускай храмавай архітэктуры.

**Л. Антонаў**

БІЯТЛОН

# ДУБАРЭЗАВА НІЯК НЕ ПАТРАПІЦЬ У ГОНКУ ПЕРАСЛЕДУ

**На ўсіх трох этапах Кубка свету па біятлону ў Эстэрсундзе, Хахфільцане і Паклюцы наша зямлячка Дубарэзава ніяк не здолела пасля спрынту патрапіць у групу 60-ці мацнейшых біятланістак, каб стартаваць у пасьюце.**

Пісаць сумна пра Настассю Дубарэзаву ніяк не выпадае, але яе ход па лыжне і доўгі час на стральбе не можа не выклікаць шматлікія пытанні пра далейшы лёс ужо ў гэтым сезоне. І гэта пры тым, што ў першай гонцы сезону Настасся паказала свой лепшы вынік у індывідуальнай гонке на 20 км, дзе была 12-й пры бездакорнай стральбе.

Толькі ўсе наступныя спрынтарскія гонкі на трох этапах пакінулі Настассю без заліковых ачкоў. Гэта было ў Эстэрсундзе, дзе яна ў спрынце была 65-й не дацянуўшы да 60-га месца 5 секунд. На наступным этапе ў Хахфільцане Дубарэзава стала 74-й не дацянуўшы да 60-га месца ўжо 18 секунд пры двух промахах на стойцы і правёўшы на стральбе амаль больш усіх часу: саступіла 36 секунд самай хуткастрэльнай біятланістцы.

І вось сёння ў спрынце ў славенскай Паклюке Настасся Дубарэзава стала 82-й пры двух промахах на лёжцы, саступіўшы 60-й біятланістке амаль мінуту – 55 секунд. Астатнія пяць беларускіх біятланістак патрапілі ў 60 мацнейшых, якія заўтра працягнуць змаганне ў гонцы пераследу. Пры гэтым Надзея Скардзіна – 21-е месца і Надзея Пісарава – 40-е месца атрымалі заліковыя ачкі, а ў Ірыны Крыўко (43-е), Ганны Сола (46-е), Дары Юркевіч (56-е) заўтра будзе магчымасць у пасьюце палепшыць свае вынікі.

Выйграла ж спрынтарскую гонку на этапе Кубка свету па біятлоне ў славенскай Паклюцы француженка Мары Дарэн-Абэр, якая і стала лідэрам сезону ў жанчын.

Пасля стартаў у Паклюке на Кубке свету пачынаюцца калядныя вакацыі, якія працягнуцца аж да 7 студзеня. Гэтыя вакацыі мусіць апошняя магчымасць для Дубарэзавай палепшыць свае фізічныя кандыцыі, каб не прайграваць бег па лыжне ў біятлонных гонках.

**Л. Антонаў**

"САМААРГАНІЗАЦЫЯ"

# НАМЕР ЛІКВІДАВАЦЬ ГАРАЖНЫ КААПЕРАТЫЎ "МАХАВІК"

**Начальнік землеўпарадкавальнай службы Гарадоцкага райвыканкама Зміцер Аксючыц у "Гарадоцкім весніку" афіцыйна распавёў аб наступствах ліквідацыі кааператыва "Махавік" як юрыдычнай асобы для яго членаў пры непагашэнні запазычанасці за зямельны падатак: павелічэнне выдаткаў на афармленне дакументаў у 50 разоў большых, чым членская гадавая складка.**

Праблемы гаражнага кааператыва "Махавік" узніклі ў сувязі з тым, што кааператыў не выплаціў зямельны падатак за 2015 год у памеры 497 тыс. рублёў. Прычынай такой сітуацыі стала тое, што былы старшыня "Махавіка" прадаў гараж і выбыў з членаў кааператыва, а застаўшыяся члены кааператыва не здолелі аплаціць зямельны падатак у памеры 2,3 млн. рублёў. Адпаведна гаражны кааператыў пазбавіўся электраэнергіі, вываза адходаў, а таксама існуюць праблемы з добраўпарадкаваннем тэрыторыі кааператыва.

У гэтай сітуацыі, калі знікла дзейнасць кааператыва па выкананню абавязкаў перад дзяржавай і грамадствам па выплаце падатку і падтрыманню парадка, землеўпарадкавальная служба райвыканкама мае юрыдычныя падставы для спынення права кааператыва на зямельны участак, а таксама пачатак працэдуры ліквідацыі кааператыва як юрыдычнай асобы.

Пры ліквідацыі юрыдычнага статуса кааператыва ўладальнікі гаражоў павінны будуць плаціць зямельны падатак як ўладальнікі нерухомай маёмасці. Адпаведна спачатку яны будуць вымушаны афоміць дакументы на зямельныя участкі пад гаражамі. А кошты ажыццяўлення такой працэдуры пры наяўнасці права ўласнасці на гараж да 2009 года складае 2,5 млн. рублёў, а пасля гэтай даты – 4,5 млн. рублёў. Асобы, якія не выконваюць гэтыя патрабаванні з'яўляюцца адміністрацыйнымі правапарушальнікамі па арт. 23.41 КаАП РБ і нясуць адказнасць у выглядзе штрафа ад 20 да 30 базавых велічыць і на іх налічваецца падатак па 10-кратнай стаўцы за увесь перыяд незаконнага карыстання зямлёй – з даты ліквідацыі гаражнага кааператыва.

Начальнік землеўпарадкавальнай службы Гарадоцкага райвыканкама Зміцер Аксючыц заклікае членаў кааператыва тэрмінова ўнесці складку за 2015 год у памеры 50 000 рублёў на рахунак "Махавіка". Гэта дазволіць па меркаванню начальніка землеўпарадкавальнай службы ліквідаваць запазычанасць па зямельнаму падатку, а таксама абраць старшыню, скарбніка кааператыва, яго кіраўніцтва і вырашыць неадкладныя пытанні дзейнасці кааператыва. Калі ж члены "Махавіка" не выплацяць складкі і не арганізуюцца для працы ў гаражным кааператыве, то будуць несці фінансавыя выдаткі ў 50 і больш разоў большыя, чым гадавая складка за гэты год.

**Л. Антонаў**

ВІРТУАЛЬНАЯ ПРАСТОРА

# HARADOK.INFO ПАТРАПІЎ У "SECOND LIFE"

**Беларускі вучоны, наш зямляк Уладзімер Слабін, які жыве і працуе ў ЗША, ставарае віртуальную Беларусь. Над плошчай Перамогі лунаюць бел-чырвона-белыя сцягі, станцыя метро носіць імя Каліноўскага, а на шапіку Белсаюздруку – рэклама Haradok.info і "Гарадоцкага весніка".**

Уладзімір Слабін — навуковы супрацоўнік Цэнтра перадавых тэхналогій у адукацыі (Center for Advanced Technology in Education) і па сумяшчальніцтве выкладчык кафедры хіміі Універсітэта Арэгона (University of Oregon).

Да пераезду ў ЗША Слабін быў дацэнтам кафедры хіміі Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта, а пачынаў сваю педагагічную дзейнасць у Руднянскай школе нашага раёна. Абараніў дысертацыю па распрацоўцы камп'ютэрных праграм па хіміі як сродкаў экалагічнага выхавання. Слабін цікавіцца адукацыйнымі магчымасцямі трохмерных віртуальных асяроддзяў. Таму міма праекту Second Life ён проста не мог прайсці.

Што такое Second Life

Анлайн-праект Second Life з'явіўся ў 2003 годзе. Прадукт выклікаў у гульцоў захапленне, ідэя кампаніі Linden Lab атрымала шчодрае фінансаванне і падтрымку вядучых IT-кампаній свету.

Second Life — гэта не столькі гульня, колькі імітацыя жыцця ў віртуальнай прасторы. Асноўны занятак карыстальнікаў — гэта камунікацыя паміж сабой ці стварэнне і аздабленне ўласнай віртуальнай прасторы. Трохі нагадвае вядомую гульню «Sims», толькі анлайн.

На пік папулярнасці праект выйшаў у 2006—08 гадах. Сцвярджалася, што зарэгістраваных карыстальнікаў там было больш за 15 мільёнаў. Гарвардскі і Оксфардскі універсітэты нават выкарыстоўвалі Second Life як адукацыйную пляцоўку. Праўда, большасць карыстальнікаў не затрымлівалася надоўга. На думку самога Філіпа Расдэйла, стваральніка праекту, гэта было звязана з кіраваннем. Жыць у трохмернай рэальнасці, выкарыстоўваючы мышку і клавіятуру, не вельмі зручна. У выніку, наведвальнасць праекту паступова падае.

Second Belarus

У 2008 годзе Уладімір Слабін набыў у Second Life кавалак віртуальнай зямлі плошчай 514 кв.м.

«Калі я назваў яго «Беларусь», то зрабіў гэта інстынктыўна. Проста таму, што так хацелася і таму, што было цікава. У пазнейшыя гады будаваў «інфраструктуру» і таксама не задумляўся аб мэце, хаця і спадзяваўся і спадзяюся, што асяроддзе станецца цікавым і карысным для многіх беларусаў. У кожнага, хто прыходзіць у трохмерны віртуал, свая мэта — гэта можа быць бізнес, гульня, адукацыя, тусоўкі, віртуальны флірт. Вядома, такія развагі гучаць няпэўна для заяўкі на грант. Але ж гэта, дзякуй Богу, не грант, а мая ўласная ініцыятыва», — апісвае Слабін.

Мэта крышталізавалася паступова. Па яго словах, яна такая — пашырыць беларускую культурную прастору шляхам стварэння яшчэ аднаго віртуальнага асяроддзя. У далейшым віртуальная Беларусь няўхільна расла і сёння яе агульная плошча — 8704 кв.м. Менш за гектар, але, да прыкладу, плошча паўнавартаснага вострава ў SL — 6,5 га (65536 кв.м). Па адным востраве ў свой час займалі віртуальныя Латвія і Ізраіль. Па некалькі астравоў сёння займаюць Грэцыя, Нарвегія, Францыя, Японія, гарады Лондан (6), Нью-Ёрк (5), Токіа (3), Портланд (2). У Расіі цяпер два астравы (адзін з іх Масква), але ў 2008 было больш як 5. Адзін з іх — з контурам сушы ў выглядзе мядзведзя — эмблемы партыі «Адзіная Расія». Там падчас расійска-грузінскага канфлікту (2008) Слабін назіраў пацешную кібератаку. Так што Беларусь на віртуальных 87 сотках — цалкам нармальна. Краіны свету прадстаўлены ў SL афіцыйна і неафіцыйна.

Напрыклад, Албанія, Калумбія, Мальдзівы, Сербія, Філіпіны, Швецыя і Эстонія ў свой час нават афіцыйна адкрылі там амбасады. Не ўпэўнены, што там можна было звяртацца і атрымліваць шведскія ды эстонскія візы (хіба віртуальныя?), але падзеі адбыліся і ўвайшлі ў гісторыю SL. Большасць жа краін і гарадоў пакуль будуецца ў SL сіламі энтузіястаў.

«Некалькі гадоў існуе і асобны востраў Беларусь, да якога я не маю дачынення, але знаёмы з гаспадаром. Там цікавая прырода, хаця нацыянальнай, беларускай спецыфікі небагата. Падобна да гэтага, некалі быў востраў пад назвай Украіна, спрэс застаўлены мінарэтамі. Сёння ёсць стэрэатыпны такі востраў Афіны без анічога грэчаскага», — піша Слабін.

Як трапіць у віртуальную Беларусь?

Трапіць туды можа кожны. Трэба спампаваць і ўсталяваць кліент Second Life з сайта secondlife.com і зарэгістраваць аватар на тым жа сайце. Затым увесці адрас http://maps.secondlife.com/secondlife/Varsity/57/156/99 — і вы на плошчы Незалежнасці.

**Крыніца: Наша Ніва**

ГАЛОЎНАЯ ПАДЗЕЯ

# БАНКЕТНАЯ ПРАМОВА СЬВЯТЛАНЫ АЛЕКСІЕВІЧ

**10 снежня Святлана Алексіевіч атрымала Нобелеўскую прэмію па літаратуры з рук шведскага караля Карла Густава XVI. На банкеце ў Блакітнай залі Стакгольмскай ратушы першая беларуская нобэлеўская ляўрэатка згадала Адамовіча і Быкава і расказала сьвету пра Беларусь.**

"Я дзякую Шведскай акадэміі за высокую ўзнагароду, якую ня маю права сабе прысвоіць, я разумею яе як паклон многім пакаленьням савецкіх людзей, якія яшчэ нядаўна жылі разам у велізарнай краіне СССР — марксісцкай лябараторыі сьветлай будучыні. Як паклон іх пакутам і іх болю. Яны сыходзілі ў нябыт у сталінскіх лягерах, на шахтах Магадану і Варкуты, атрымлівалі кулю ў патыліцу ў катавальнях НКВД, гінулі на франтах Другой сусьветнай вайны і іншых войнаў, якія вяла імпэрыя. Вялікая ідэя бязьлітасна пажырала сваіх дзяцей. Ідэям не бывае балюча. Шкада людзей.

У перабудову мы марылі пра свабоду, а апынуліся ў зусім іншым пункце гісторыі. На постсавецкай прасторы замест свабоды расквітнеў аўтаталітарызм розных масьцяў — расейскі, беларускі, казахскі... Павольна і няўпэўнена выбіраемся мы з пад абломкаў «чырвонай» імпэрыі. Адна з гераіняў маёй кнігі «Час second-hand», у якой уся сям'я была высланая ў Сібір і там загінула, са сьлязамі на вачах сьпявала, калі мы сядзелі ў яе на кухні:

*Утро красит нежным светом*
*Стены древнего Кремля,*
*Просыпается с рассветом*
*Вся советская земля...*
*Кипучая,*
*Могучая*
*Никем не победимая*
*Страна моя,*
*Москва моя,*
*Ты самая любимая...*

Мінуўшчына не выпускала яе з сваіх драпежных абдымкаў. Яе навучылі верыць, у ёй усё яшчэ жыла тая дзяўчынка, у якой Сталін калісьці забраў усё, а яна ўсё роўна верыла. У што?

Я хачу расказаць пра маю краіну — Беларусь. У Менску ў аэрапорце, калі я ляцела ў Варшаву, да мяне падышлі дзьве маладыя дзяўчыны, яны плакалі: «Дзякуй вам! Разумееце, мы цяпер ёсьць! Цяпер усе ведаюць, дзе Беларусь!» Гэтую падзяку я перадаю ўсім вам. Пасьля жнівеньскага путчу 1991 году, калі Беларусь атрымала незалежнасьць, ужо вырасла некалькі пакаленьняў. У кожнага зь іх была свая рэвалюцыя, яны выходзілі на Плошчу, яны хацелі жыць у вольнай краіне, іх зьбівалі, адпраўлялі ў турмы, выганялі з інстытутаў, звальнялі з працы. Наша рэвалюцыя не перамагла, але героі рэвалюцыі ў нас ёсьць.

Свабода — гэта ня хуткае сьвята, як мы марылі. Гэта — шлях. Доўгі шлях. Цяпер мы гэта ведаем.

Мы ўсе жывем у агульным сьвеце. Ён называецца — Зямля. У гэтым нашым сьвеце зрабілася няўтульна. Уключаеш тэлевізар, і там, захлынаючыся ад захапленьня, дыктар расказвае пра новыя вайсковыя самалёты, караблі... На расейскай, ангельскай і іншых мовах. Зноў наступіла эпоха барбарства. Эпоха сілы. Дэмакратыя адступае.

Узгадваюцца 90-я гады... Тады ўсім нам здавалася — і вам, і нам — што мы ўступілі ў бясьпечны сьвет. Я памятаю дыялёгі Гарбачова з Далай-ламам пра будучыню, пра канец гісторыі... Сёньня ўсё гэта здаецца прыгожай казкай.

Цяпер мы сьведкі новай схваткі дабра і зла. Сьведкі і ўдзельнікі.

Што можа мастацтва? Мэта мастацтва — назапашваць чалавека ў чалавеку. Але калі я была на вайне ў Афганістане і цяпер, калі размаўляла ва Ўкраіне з уцекачамі з Данбасу, я чула, як хутка зьлятае з чалавека культура і выпаўзае пачвара. Выкрываецца зьвер... Але я пішу... працягваю пісаць... Пішу, як вучылі мяне мае настаўнікі, беларускія пісьменьнікі Алесь Адамовіч і Васіль Быкаў, якіх у гэты дзень я хацела б прыгадаць з удзячнасьцю. Як вучыла мяне мая ўкраінская бабуля, якая ў дзяцінстве чытала мне «Кабзара» Тараса Шаўчэнкі напамяць. Пішу, нашто? Мяне называюць пісьменьнікам катастрофаў, гэта няпраўда, я ўвесь час шукаю словы любові. Нянавісьць нас не ўратуе. Нас уратуе толькі любоў. Я спадзяюся...

На развітаньне я хацела б, каб у гэтай цудоўнай залі прагучала беларускае слова, мова майго народу:

У адной беларускай вёсачцы старая жанчына праводзіла мяне са словамі: *"Хутка мы разыдземся з табой у розныя бакі. Дзякуй табе, што ты слухала мяне і панясеш маю больку людзям. Прашу цябе, калі пойдзеш, агляніся на маю хатку. Агляніся не адзін, а два разы. Другі раз чалавек аглядваецца не па чужынцы, а ўжо з сэрцам..."*

Я хачу падзякаваць вам за ваша сэрца, за тое, што вы пачулі наш боль."

**"Радыё Свабода"**




БЕЛАРУСЬ – РАСІЯ

# ВОПРОС РОССИЙСКОЙ АВИАБАЗЫ ОТОДВИНУТ

**В те минуты, когда в Кремле напряженно переговаривались президенты Беларуси и России, в Национальном аэропорту под Минском встречали морем цветов писательницу Светлану Алексиевич, вернувшуюся из Стокгольма с Нобелевской премией.**

Но если та возвратилась в родные пенаты с триумфом, то Александр Лукашенко похвалиться плодами закончившегося 15 декабря московского визита вряд ли может.

Были времена, когда он прилетал из белокаменной в приподнятом настроении, с договоренностями о кредитах и дешевых энергоносителях.

Ныне же в актив, и то весьма условно, можно записать разве что одно — вопрос о размещении в Беларуси российской авиабазы отодвинут.

**Пришлось подписать заявление «ниочем»**

По итогам переговоров в Кремле президенты подписали совместное заявление, суть которого на сетевом сленге можно выразить как «ниочем». Например, «Беларусь и Россия договорились скоординировать усилия в Союзном государстве и Евразийском экономическом союзе по созданию дополнительных условий для увеличения объемов взаимной торговли и повышения деловой активности реального сектора экономик двух государств».

Гениально! Раньше, надо думать, не координировали, а теперь наконец-то договорились координировать.

«Судя по тому, что в итоговых публичных заявлениях не прозвучали слова «авиабаза», «нефть», «кредит», стороны по большому счету не договорились по ключевым вопросам», — заявил в комментарии для Nav-iny.by минский аналитик-международник Андрей Федоров.

По его мнению, нет никаких гарантий, что через неделю спорные вопросы будут развязаны. Более того, трудно прогнозировать, в каком направлении пойдет развитие отношений — в сторону шлифовки договоренностей или в сторону конфронтации, отметил собеседник.

Эксперт минского аналитического центра «Стратегия» Валерий Карбалевич, со своей стороны, предположил в комментарии для Nav-iny.by, что правительствам могли делегировать такие вопросы, как условия выдачи кредита Евразийского фонда стабилизации и развития (ЕФСР), цена и объем поставок нефти в Беларусь в будущем году, судьба вывозных пошлин на нефтепродукты (Минск хочет целиком оставлять их в республиканском бюджете).

В то же время, считает Карбалевич, «обмен кредита на авиабазу осуществить не удалось».

По его мнению, утверждение пресс-секретаря Путина Дмитрия Пескова, что тему авиабазы президенты не затрагивали, звучит смешно, поскольку перед переговорами близкие к российскому руководству источники заявляли, что этот вопрос будет обсуждаться.

«Вопрос авиабазы отодвинут, поскольку белорусская сторона ее размещения не хочет», — убежден Карбалевич.

**Украина, Сирия, Турция — у Минска свой интерес**

Явно не захотел Лукашенко и вербально поддержать Кремль в конфликте с Турцией. Путин был вынужден от себя обтекаемо заметить, что у Москвы и Минска близкие позиции по украинскому кризису и борьбе с терроризмом в Сирии.

Ну, то, что Минск против терроризма, ежу понятно. А вот Турцию Лукашенко, находясь несколько дней назад в Ашгабате, подчеркнуто назвал «дружественной нам» и в целом призвал «не нагнетать», идти на уступки и компромиссы (из контекста вытекало: обеим сторонам). Ранее он принял в Минске ближайшего союзника Анкары — президента Азербайджана Ильхама Алиева.

Поговаривают, что белорусский президент не прочь умножить лавры миротворца, заработанные на украинском кризисе, через предоставление площадки и для разруливания ближневосточной проблематики.

Этот номер вряд ли прокатит, однако факт то, что ссориться с турками, как и ранее с украинцами, белорусскому руководству (да и всему народу) абсолютно ни к чему. И с теми, и с теми у Минска хорошая торговля, взаимный экономический интерес, да и вообще — зачем? Беларусь — не империя, ей ни к чему доказывать крутизну через конфронтацию с другими странами, влезание в войны на чужих землях.

Между тем прокремлевские комментаторы возмущаются, что на белорусском топливе летают самолеты и ездят танки «киевской хунты». Так что слова Путина о близких позициях по Украине — скорее попытка сделать хорошую мину.

Продвигая экономический интерес Минска, Лукашенко сдержанно заметил: «Беларусь поддерживает и разделяет цели реализуемой в России программы импортозамещения, но эта программа ни в коем случае не должна ухудшать возможности и условия поставок белорусских товаров и услуг. Тем более что они закреплены как двусторонними соглашениями, так и нормами ЕАЭС».

Здесь смысловой акцент падает на ту часть фразы, которая идет после «но». Минск недоволен, что рынок восточной соседки сужается для белорусского экспорта. Причем Россия не особо оглядывается на интеграционные договоренности (справедливости ради отметим, что и для белорусского начальства они не священная корова).

**Авиабаза: клинч продолжится**

Таким образом, узел двусторонних противоречий президенты встречей 15 декабря не развязали.

У Москвы в руках сильные рычаги, чтобы продавливать авиабазу. Белорусское руководство подвесило проект бюджета на будущий год, видимо, не зная, как его наполнять, в частности потому, что мировые цены нефти упали ниже плинтуса предварительных расчетов. Так что получение кредита ЕФСР и энергетических субсидий — вопрос жизни и смерти «белорусской модели».

Однако фишка белорусско-российских отношений в том, что хвосту часто удается вертеть собакой. Во всяком случае, несомненно, что Лукашенко применит весь опыт такого рода, чтобы упираться против базы до последнего. А вопрос о ней может стать ребром уже на саммите ОДКБ 21 декабря.

Поражение же в этом вопросе станет ударом не только по имиджу, но и по статусу полновластного хозяина страны (база окажется неуправляемым чужеродным телом, потенциально — с носителями ядерных зарядов), и по только-только вышедшим на плюс отношениям с Евросоюзом и США. Причем те именно за отказ от авиабазы могут дать кредит МВФ в три миллиарда долларов.

Минск пытается удержать немыслимый геополитический шпагат.

**Александр Класковский**

ІНТЭРНЭТ ГАНДАЛЬ

# …ТАМ, ЗА ГРАНИЦЕЙ, В РАЗЫ ДЕШЕВЛЕ…

**Председатель Совета Республики Михаил Мясникович будет продолжать настаивать на введении налога на покупки белорусов в заграничных интернет-магазинах: «Оценочная стоимость посылок из-за рубежа намеренно занижается».**

По его словам, стоимость этих посылок намеренно занижается, сообщает БЕЛТА.

— Они оцениваются в 5, 10 долларов… Хотя на самом деле фактическая стоимость совершенно другая, поэтому бюджет недополучает НДС, пошлины, — обосновал свою позицию Михаил Мясникович и рассказал, что за полгода белорусы получили 4,4 миллиона посылок из-за границы. — Я не против того, чтобы покупали это, но идет просто подлог фактической стоимости. Это позволяет уходить от таможенных пошлин, платежей и так далее.

Впервые идею брать налог с посылок из заграничных интернет-магазинов Михаил Владимирович озвучил летом этого года. Позднее Нацбанк поручил коммерческим банкам рассмотреть техническую возможность взимания дополнительного сбора с физлиц на этапе оплаты товаров по карточке банкам. Финансовые учреждения уведомили регулятор о том, что не имеют такой технической возможности.

«Я считаю, что это неправильный подход. Буду на этом настаивать. Ведь, когда мы приходим в магазин, на кассе пробивают НДС, и программное обеспечение срабатывает. Каждый покупатель уплачивает налог. У нас есть регистрация на каждую посылку. При ее вручении вполне можно этот вопрос решить», — заключил Михаил Мясникович и привел в пример ЕЭК, которая сейчас как раз рассматривает варианты пошлины для таких посылок.

Как напоминает FINANCE.TUT.BY, один из вариантов предусматривает освобождение от таможенных платежей товары, которые дешевле 22 евро и весом ниже 1 килограмма. Посылки, которые попадают в диапазон 22–150 евро и 1–10 килограммов, потребуют уплаты налога в размере 15 евро. Согласно второму варианту, товары с таможенной стоимостью до 150 евро и весом не более 10 килограммов будут облагаться сбором в 10 евро. Если таможенная стоимость посылок превышает 150 евро, а вес — более 10 килограммов, тогда сбор составит 10 евро плюс 30% от таможенной стоимости, но не менее 4 евро за 1 кг веса.

– Михаил Мясникович – вообще очень «креативный» чиновник в деле изъятия денег у граждан, – летом, как только была озвучена новая идея, заявила «Салідарнасці» Татьяна Короткевич. – Он был одним из инициаторов декрета «о тунеядцах». Теперь еще придумал брать налог с товаров, которые граждане получают по почте из-за границы. Государство в условиях экономического кризиса и снижения уровня доходов людей в очередной раз не находит ничего лучшего, чем решать за счет граждан проблемы, которые Мясникович и прочие «экономисты» сами же и создали.

Реакция Байнета: «Уже не знают, где еще урвать из кармана населения»

Форумчане сразу же отреагировали на свежее заявление бывшего премьер-министра. Предлагаем избранное с открытой дискуссионной площадки talks.

«Скорее, это стоимость товаров у Мясниковича в стране намеренно завышается. Причем, самым наглым образом».

«Не пробовали качественную и дешевую продукцию производить?».

«Мясникович никак не может понять, что там, за границей, в РАЗЫ ДЕШЕВЛЕ».

«Господам мало на коттеджи и немецкие машины? Уже не знают, где еще урвать из кармана населения».

«Грустно, что они до самого конца не поймут, что никакие новые налоги их не спасут».

**http://gazetaby.com**




КАРУПЦЫЯ

# МАСАВЫЯ АРЫШТЫ ЧЫНОЎНІКАЎ

**Арыштаваныя былыя міністар гандлю Валянцін Чаканаў і два намесьнікі міністра – транспарту Васіль Півавар і сельскай гаспадаркі Яўген Рагачоў.**

На сайце kp.by зьявілася паведамленьне пра верагоднае затрыманьне былога міністра гандлю Валянціна Чаканава. Паводле выданьня, якое спасылаецца на старшыню КДБ Валерыя Вакульчыка, «Чаканавым займаецца Сьледчы камітэт».

Валянцін Чаканаў адпрацаваў на пасадзе міністра гандлю з 2009 году. Ён адзіны міністар з ураду прэм'ера Уладзімера Кабякова, які ня быў наноў прызначаны пасьля выбараў у кастрычніку. З пасады міністра гандлю Валянцін Чаканаў быў адпраўлены ў адстаўку 17 сьнежня.

Кіраўнік КДБ заявіў пра арышты былога намесніка міністра сельскай гаспадаркі Васіля Півавара і транспарту Яўгена Рагачова і бізнэсмэна Уладзімера Япрынцава. Пра гэта паведамляе БелаПАН са спасылкай на старшыню КДБ Валерыя Вакульчыка.

Васіль Півавар і Яўген Рагачоў былі вызваленыя ад займаных пасадаў у адзін дзень, 4 сьнежня, з аднолькавай фармулёўкай: «у сувязі з учынкам, несумяшчальным са знаходжаньнем на дзяржаўнай службе».

Акрамя таго, Вакульчык пацьвердзіў факт затрыманьня намесьніка генэральнага дырэктара кампаніі «Трайпл» Уладзімера Япрынцава і паведаміў, што той абвінавачваецца ў махлярстве.

Інфармацыя пра затрыманьне Япрынцава зьявілася яшчэ ў жніўні, але да гэтага часу афіцыйнага пацьверджаньня гэтага факту не было.

**Алег Груздзіловіч**

ПОСТСАВЕЦКАЯ ІНТЭГРАЦЫЯ

# САЮЗЬНІКІ НЕ ПАДТРЫМАЛІ ВАЯЎНІЧУЮ ПАЗЫЦЫЮ РАСЕІ

**Галоўная інтрыга самітаў АДКБ і ЭАЭС у Маскве 21 сьнежня палягала ў тым, ці патрымаюць саюзьнікі ваяўнічую лінію Расеі на ўцягваньне ў канфлікты з суседзямі.**

На саміце АДКБ абмяркоўвалася супрацьстаяньне РФ з Турэччынай. У гэтым пытаньні склалася супярэчлівая і трохі дзіўная сытуацыя. З афіцыйных заяваў МЗС краін-чальцоў АДКБ, саюзьнікаў Расеі, вынікала, што тыя займаюць пазыцыю нэўтралітэту. А Лукашэнка, выступаючы ў Туркмэністане, загаварыў нават пра памылкі РФ у гэтым канфлікце.

І вось саміт АДКБ нібыта сапраўды падтрымаў РФ у яе канфлікце з Турэччынай. Пра гэта заявіў прэзыдэнт Армэніі, якая старшынюе цяпер у арганізацыі, Серж Саргсян. Па выніках паседжаньня ён адзначыў: «Мы, як саюзьнікі Расеі, выказваем салідарнасьць і падтрымку пазыцыі Масквы па гэтым інцыдэнце».

Але тут ёсьць важныя нюансы. Інфармацыю пра такую пазыцыю на закрытай сустрэчы прэзыдэнтаў даў толькі Серж Саргсян. Вядома, што ў Армэніі даўняя гістарычная варажнеча з Турэччынай. Таму ягоная інтэрпрэтацыя можа быць не зусім аб'ектыўная. Астатнія прэзыдэнты на гэты конт прамаўчалі.

Па выніках саміту АДКБ была прынятая толькі заява «Аб супрацьдзеяньні міжнароднаму тэрарызму». У гэтым афіцыйным дакумэнце пра канфлікт Расеі з Турэччынай нічога не гаворыцца. Таму, відаць, падтрымка вельмі ўмоўная.

Ня менш знамянальным быў і саміт ЭАЭС. Справа ў тым, што з 1 студзеня 2016 пачне дзейнічаць пагадненьне аб асацыяцыі паміж Украінай і Эўрапейскім Саюзам. Адным з ягоных элемэнтаў зьяўляецца зона вольнага гандлю. 16 сьнежня прэзыдэнт РФ Уладзімір Пуцін падпісаў указ аб прыпыненьні дзеяньня дамовы аб зоне свабоднага гандлю СНД з Украінай з 1 студзеня 2016 году.

Сытуацыя, калі адзін з чальцоў мытнага саюзу ў аднабаковым парадку ўводзіць эксклюзіўны гандлёвы рэжым зь нейкай трэцяй дзяржавай, дзіўная і абсурдная. Гэтая абсурднасьць выявілася яшчэ год таму, калі Расея ўвяла эмбарга на імпарт харчаваньня з ЭЗ. Што прывяло на практыцы да вялікага аб'ёму рээкспарту забароненых тавараў праз Беларусь, пэрманэнтных прэтэнзій з гэтай нагоды Масквы да Менску. Гэтае рашэньне РФ апрыёры праграмавала канфлікт паміж чальцамі ЭАЭС. Таму што, калі ў адной краіны-чальца мытнага саюзу існуе іншы гандлёвы рэжым з трэцяй дзяржавай, то дэ-факта мытны саюз ня дзейнічае, ён разбураецца.

Але Расея на гэтым не спынілася. У лістападзе Масква ўвяла забарону на імпарт харчовых тавараў з Турэччыны. І вось цяпер выходзіць з рэжыму вольнага гандлю з Украінай. Відавочна, гэта больш палітычнае рашэньне, чым эканамічнае, працяг расейска-ўкраінскага канфлікту іншымі мэтадамі.

Саміт ЭАЭС не падтрымаў Расею ва ўкраінскім пытаньні. Фармальна прынялі рашэньне пачакаць паўгода, паглядзець («правесьці маніторынг») якія будуць наступствы пагадненьня аб асацыяцыі паміж Украінай і ЭЗ, ці сапраўды эўрапейскія тавары праз украінскую тэрыторыю будуць трапляць на рынкі краін ЭАЭС. І толькі пасьля гэтага прымаць нейкія захады.

Але аднабаковае рашэньне Расеі стварае глебу для новых беларуска-расейскіх супярэчнасьцяў. Можна чакаць, што будзе адбывацца рээкспарт украінскіх тавараў у Расею праз Беларусь.

І тут узьнікае больш глябальнае пытаньне. Ці магчымы эканамічны саюз паміж краінамі ЭАЭС, калі нават паўнавартасны Мытны саюз ня можа эфэктыўна працаваць, ён разбураецца на вачах. Мытны саюз у параўнаньні з эканамічным саюзам — ніжэйшы ўзровень інтэграцыі. Дык калі нават ён працуе з такімі хібамі, то пра што можна казаць.

**Валер Карбалевіч**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 29.12.2015 у 17.20** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.